# ЛЕТАПІС

## Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ

### КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК





**Пятро Першукевіч.** Памёр у Навагрaдку 4.XII.33.

№ 5-6. Вільня, Кастрычнік — Лістапад, 1933. Год I

# Зьмест:

ЛЕТАПІС
Т-ва Беларускае Школы
КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

Цана: 3 зл. 60 гр. на год
1 „ 80 „ „ паўгода
асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Боніфратэрская 2—3

№ 5-6 | Кастрычнік — Лістапад, 1933 г. | Год I

# Да акружных сходаў.

У цяжкіх умовах мінуў яшчэ адзін год, запісваючы на старонкі гісторыі нацыянальна-вызвольнага руху нязломнае змаганьне Т-ва Беларускае Школы за сваё істнаваньне на карысьць працоўнага люду. Толькі дзякуючы нязломнасьці і неразлучнай сувязі з народнымі гушчамі, дзякуючы штодзённай працы, заспакойваючай патрэбы селяніна і работніка, Т-ва Беларускае Школы змагло праламаць лес перашкодаў на сваім шляху і пашырыць свой арганізацыйны стан на ўсю Заходнюю Беларусь.

Ужо сёньня, падыходзячы да выбараў акружное управы ў Ваўкавыску і перавыбараў у Беластоку, мы маем права з усёй адказнасьцю заявіць, што гэтымі двума пунктамі праца наша не абмяжоўваецца, што мы вышлі па-за іх: Горадня, Слонім, Баранавічы, Сьвянцяны, Вялейка — вось тут загарэліся пакуль што паасобныя іскаркі, якія мы павінны распаліць у вогнішчы культурна-асьветнае працы, якія-б нішчылі адвечную цемру.

Дзякуючы матэрыяльна-маральнаму падтрыманьню селян і работнікаў, згуртаваных і незгуртаваных у ТБШ, — мы маем наш сучасны орган „Летапіс“, які на сваіх старонках бадзёра кліча н а п е р а д, яднае думкі, дае кірунак гурткам, дапамагае іх штодзённай працы, злучае раскінутыя зьвеньні ў адзін магутны ланцуг. „Летапіс“ на досьледзе адных вучыць другіх, як ня трэба і як трэба працаваць, каб р а с ь ц і і ўзмацоўваць свае сілы, быць здольнымі даць сярмяжнаму люду тое, чаго ён чакае ад Т-ва Беларускае Школы.

З такімі вынікамі мы падыходзім да выбараў акружных управаў у Ваўкавыску і Беластоку, якія павінны адбыцца ў сьнежні гэтага году. На акружныя сходы зьбяруцца прад-

стаўнікі гурткой, перад якімі будзе стаяць задача ня толькі выбару управаў, але і абгаварэньне таго, што зроблена за мінулы час і што трэба зрабіць пасьля акружных сходаў, як лепш паставіць працу ў кожным паасобным гуртку, у кожнай вёсцы, дзе працоўны люд імкнецца да ТБШ, у якім бачыць барацьбіта з цемрай.

Шлях наш цяжкі але пачэсны — гэта павінен запамятаваць кожны сябра Т-ва, кожны гурток, кожная акружная управа. Нашаю галоўнаю мэтаю пры падрыхтоўцы да акружных сходаў і іх правядзеньні павінна быць узмацненьне працы гурткоў, іхны рост і выкарыстаньне ўсяго вольнага часу ўзімку.

Цераз перашкоды, яшчэ шчыльней гуртуючысь і ўзмацняючы дысцыпліну, — пойдзем да Агульнага Сходу Т-ва Беларускае Школы ўсёй Заходняй Беларусі, да Агульнага Сходу, які павінен адбыцца ў пачатку 1934 году.

Новаабраныя акружныя управы разам з усім Т-вам мусяць напружыць усе свае сілы на закладаньне новых гурткоў, новых акружных упраў, на падбор і высоўваньне сьвежых сілаў для працы ў кіруючых органах.

Ува ўсіх галінах культурна-асьветнае працы паасобныя сябры і гурткі няраз давалі прыгожыя прыклады адданасьці і высокай самаахвярнасьці для агульнае справы. Іх — гэтых лепшых — управы акругаў і гурткоў абавязаны падаць у Галоўную Управу для заліченьня пачэснымі сябрамі Т-ва.

Дамаганьне школы ў роднай мове павінна стаць адным з найважнейшых мамэнтаў нашае працы да сходаў, на сходах і пасьля іх. Гэтага патрабуе ад нас наш пакрыўджаны народ. Далей за час падрыхтоўкі неабходна сабраць матэр'ялы па самаадукацыі з тым, каб на сходах падзяліцца здабытым досьледам, абагульняючы яго і вызначаючы шляхі далейшае працы.

Няменьш важнай задачай зьяўляецца пашырэньне „Летапісу“, гуртаваньне навакол яго, зьбіраньне сродкаў на выданьне.

Перад намі непачаты край працы, які чакае жывых людзей, жывога чыну. Перад намі труднасьці і перашкоды, мы бачым іх, разумеем, але кроку свайго ня спынім на паўдарозе, назад не адступім хай хоць памаленьку, але заўсёды будзем ісьці наперад. Перамагаючы адну перашкоду за другою будзем нясьці працоўнаму народу родную культуру і асьвету. Вось нашае „камо грядеши“ або папростаму „куды ідзеш“.

Наперад-жа, грамадзяне, да сходаў, да яшчэ больш выдайнае творчае працы!

**М. ВАСІЛЁК**

# На магілу нязнаных...

(*песьня*).

Бачыў я, як калісьці вясной —
На кургане забытай магілы
Цьвіў куст ружы агнём, а над ёй
Віўся лёгкі матыль сінякрылы.

Тут жыцьцё маладае чыёсьць,
Ў першым зьзяньні прыгожасьці мілай —
Буйнай радасьці спозьнены госць,
Адцьвіло тут на век супачыла...

Калі майскія струны вясны
Хорам птушак ў бары зазьвінелі,
Навявалі чароўныя сны, —
Ён канаў на вастрожнай пасьцелі...

Бачыў ён — сьмерць касьцьлявай рукой
Ў грудзі чорнай ўпілася зьмяёю
А праз краты з апошнім: „бывай“!
Клён сукрысты ківаў галавою...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— „Сьмерць, я жыць хачу, жыць — зразумей!
Здабыць шчасьцьце сабе — сваім брацьцям...
Змагаць крыўду нядолі мілей —
Ніж тваіх рук халодных абняцьці...

Ня губі — я яшчэ малады,
Ў маім сэрцы гарачь агняцьветы...
Майго шэраго шляху гады
Першай іскрай каханьня сагрэты.

Ты нязгодна — маўчыш?... так пусьці
Ў родны кут я на міг хоць зьлятаю,
Разьвітальнае кіну — прасьці!
Родным межам, зялёнаму гаю.

Там вясна, там чакаюць мяне:
Воля, сонца, радзіма сямейка;
У вячорнай цішы, як раней,
Песьню радасьць сьпяе салавейка“...

І замоўк... згасла іскра жыцьця —
Апаў цьвет маладой красы вішні,
А на вуснах, як сон забыцьця,
Цьвіў усьмех разьвітальны, апошні.

Пахаваны змагар малады
Ад ніў родных, ад вёскі далёка.
І ніхто ня схіляўся над ім,
Нічыё не заплакала вока.

Там ля пышных квяцістых магіл,
У старонцы пад крыжам драўляным,
Удвайгу з сваім лёсам благім,
Спачыў горды — нікому нязнаны...

# На культурнай ніве.

**(Пяцілетні юбілей Вяліка-Грынкаўскага гуртка, Ваўкавыскага павету.**

Многа ахвярнасьці і гэраізму бачыла ўжо беларуская вёска.

Бабулька гісторыя на сваіх старонках запісвае ўсё новыя і новыя высокія праявы жыцьця і працы.

Маладыя душы, поўныя веры ў перамогу Праўды і Розуму сьвецяць пад сялянскімі стрэхамі.

Агонь маладога сэрца, яго парывы, вера — свежым струменем абмываюць стомленую душу...

Гэта нічога, што ноч цёмная — затое зоркі ярчэй мігацяць у небі...

Пануры шлях. Змучана сэрца. Зранены ногі. Куды-ж і як ісьці скажы ты, Родная Зямелька?

Яна дае адказ адразу магутным зовам: Сюды ідзі! Народная маса працоўных даўно чакае...

Аджыла сэрца, зьявілась сіла, бо там на цяжкім цярністым шляху відаць аганькі. Іх многа. Яны зьбліжаюцца, каб загарэцца адным яркім полымем. Яны сальюцца, каб асьвятліць наш цемны край.

І вось тады ў начным балоце патоне цемра нашае пакуты.

Радасна забілась сэрца...

---

Ціхая восень.

Чыгуночная станцыя хаваецца ў залатым пэйзажы беларускае прыроды.

Чакаюць фурманкі. Ад'яжджаем.

Сельская дарога пралягае сярод апусьцелых ніў; лёгка бяжыць конік, малады хлапец, сябра ТБШ, апавядае аб сваім жыцьці.

— Куды-ж гэта ідуць насупраць ночы маладыя хлапцы?

— У Грынкі на юбілей, паслухаць лекцыю ў беларускай мове.

Абганяем, вітаемся і едзем далей.

Вялікая вёска раскінулась на кілямэтр пад самай пушчай. Праяжджаем каля польскае школы, пад'яжджаем да беларускае бібліятэкі чытальні. Там поўна людзей Цярпліва чакаюць, хаця-ж да пачатку добрых дзьве гадзіны.

---

Няскончаная хата. Заместа столі на бэльках паложаны дошкі. Вокны забіты аполкамі і завешаны дыванамі. Па сьвяточнаму прыбраная сцэна. Поўная саля людзей. Галавы амфітэатрам падымаюцца ад самае рампы да зруба няскончанае тыльнае сьцяны; поўна ў сенях, поўна на дошках, паложаных на столі, поўна за кулісамі сцэны, за вокнамі, на дварэ... Сялянскі люд сьвяткуе пяцігодзьдзе працы сваёй арганізацыі на культурнай ніве.

Аб гэтым сьвяткаваньні, аб тым, як нявідзімыя ніці лучылі паміж сабою і лектара і арганізатараў юбілея з аднаго боку і слухачоў—з другога, найлепей апавядае сама вёска. Паслухаем, што яна кажа.

---

Наш Вяліка - Грынкаўскі гурток 22 кастрычніка сьвяткаваў пяцілетні юбілей сваёй працы. Сьяточны настрой павялічваўся тым, што на гэты дзень абяцаў прыехаць гр. Шырма дзеля адчытаньня лекцыяў. Усе нецярпліва чакалі вечара, каб пачуць ад прадстаўніка Галоўнае Управы сваё роднае жывое беларускае слова. Яшчэ да пачатку вечарыны публікі сабралась так шмат, што будынак ня здолеў усіх зьмясьціць.

А 7-й гадзіне пачалася вечарына. Першым чынам быў зроблены кароткі агляд з працы гуртка, у якім былі зазначаны труднасьці працы з прычыны матар'яльнага характару, а таксама пасыўныя адносіны значнай часткі нашага старэйшага грамадзянства, якое часта нашу працу уважае забаўкай. Пасьля справаздачы было адчытана прывітальнае пісьмо ад сябраў Гал. Упр. і былых працаўнікоў з пажаданьнем, „каб праз другіх пяць год уся вёска наша ад малага да вялікага была сябрамі ТБШ і на ўсю Беларусь уславілася сваімі дасягненьнямі ўва ўсіх галінах культурна-асьветнай працы“. Шчырая падзяка за добрае пажаданьне!

Далейшай часткай праграмы былі лекцыі, адчытаныя гр. Шырмай, на тэмы: „Літэратура і яе значэньне ў жыцьці грамадзтва і адзінкі“, другая — „Беларускія народныя песьні“.

З нязвычайнай цікавасьцю усе прыслухоўваліся да слоў лектара, які на прыкладах з гісторыі розных краін і народаў паказваў, як літэратура падгатаўляла грунт і спрычынялася да перабудовы несправядлівасьцяў грамадзкага ладу. Літэратура дапамагла распілаваць ланцугі нявольніцтва Амэрыканскіх нэграў і ланцугі царскага прыгону; маленькі і галодны французскі поэт Беранжэ сваімі песьнямі многа спрычыніўся да таго, што французы незаўсёды прагналі ненавісных, пастаўленых чужаземнаю сілаю каралёў Бурбонаў; польская літэратура дапамагла палякам пранясьці ідэю свайго дзяржаўнага ўваскрашэньня праз вякі няволі; беларуская — змагаецца і не без посьпеху з праклятай спадчынай прыгону — нявольніцкай псыхікай у народзе, будзіць і падымае годнасьць працоўнага селяніна, які яшчэ ўчора гнуў галаву, уніжаўся і з панам іначай ня гутарыў, як скінуўшы шапку, нізка кланяючысь. Трэба зазначыць, што гэтую лекцыю гр. Шырма мусіў чытаць два разы, каб даць магчымасьць паслухаць і тым, што не зьмясьціліс у будынку, а чакалі на дварэ.

У часе лекцыі аб беларускіх народных песьнях хор пад кіраўніцтвам А. Сахарчука, дапаўняючы лекцыю прапяяў 3 песьні: „Зязюленька“, „Дзе ты, хмелю, зімаваў“ і „Ці сьвет, ці сьвітае“, якія публіка спатыкла вельмі прыхільна.

На заканчэньне вечарыны драматычная сэкцыя адыграла пьесу: „Лекары і лекі“, якая ўжо стварыла на салі вясёлыя настроі. Наагул вечарына пакінула на ўсіх дужа прыемнае і вялікае ўражаньне. Гр-не в. **Малыя-Грынкі** прасілі нашых хлапцоў напісаць, што яны засталіся вельмі задаволены і просяць прыяжджаць хоць кожную нядзелю, то будуць хадзіць слухаць. З в. **Міхалак** не пасьпелі напісаць, але прасілі ад іхняга імя падзякаваць за лекцыю; дзяўчаты асабліва задаволены песьнямі. Тыя, што лічылі нашу працу забаўкай пераканаліся, што ня так ёсьць у запраўднасьці і прызнаюць ужо, што наша праца карысная, патрэбная. Да гэтага шмат прычыніліся лекцыі гр. Шырмы, якому В-Грынкаўскі гурток на гэтым мейсцы складае шчырую падзяку за тое, што адведаў наш куток. Управа гуртка.

З вёскі **Зарэчане,** Ялоўскай вол. пішуць, што за восем кілямэтраў пашлі, каб пачуць слова ад асобы, якая жывучы ў вялікім горадзе, не забывае цёмных беларускіх вёсак. Дома мы расказалі аб усім, што пачулі, сваім сялянам, якія дапытываліся, ці прыедзе яшчэ грам. Шырма. Сябры Нязбодзіцкага гуртка засумавалі аб тым, што іх г-к разьвязаны. Каб меў магчымасьць вясьці працу, то можа хто адведаў бы і нашу пакрыўджаную вёску. Вельмі пажадана, каб такія лекцыі ў нашай ваколіцы чыталіся часьцей. 25-X 1933 г.

Адзін сябра з вёскі **Раманаўцаў** піша, што ён не спускаючы вачэй прагавіта слухаў, як ліліся з вуснаў лектара слова за словам у роднай беларускай мове. „Мне было вельмі шкада — кажа ён — калі лекцыя кончылася і трэба было апусьціць салю, каб даць месца тым, якія чакалі на дварэ, бо ў салі не маглі зьмясьціцца“. На заканчэньне свайго пісьма выражае пажаданьне, „каб Галоўная Управа часьцей прысылала такіх прадстаўнікоў, якія чыталі-б нам гэтакія лекцыі“.

Другі сябра з тэй-жа вёскі ў карэспандэнцыі „Што я бачыў“ піша: „Сялянскія масы даведаўшысь аб прыездзе лектара з Галоўнай Управы плылі з усіх куткоў пачуць сваё роднае літэратурнае слова, якое насіцца недзе далёка па за нашымі вёскамі. Слухачоў было, як мне ведама, з дзесяці вёсак Сьвіслацкай і Ялоўскае валасьці. Сябры мяйсцовага гуртка, бачачы вялікую колькасьць слухачоў, у паразуменьні з лектарам пастанавілі, каб лекцыя была адчытана і для тых, якія не змаглі за адзін раз зьмясьціцца ў салі.

Паднялася заслона, ціха і спакойна ўвайшоў на сцэну худы чалавек, з блядым тварам, — гэта быў гр. Шырма, які пачакаўшы нейкую хвіліну, кінуўшы вачыма па салі распачаў лекцыю. Запанавала ціша на салі. Усе з увагаю і вялікім зацікаўленьнем слухалі, як лектар умела выкладаў свой прадмет, даючы сучасныя і гістарычныя прыклады найвялікшых геніяў чалавецтва, якія сваімі творамі, кідаючы іх у народ, рвалі і рвуць ланцугі няволі чалавецтва. Лекцыя гэта ёсьць для нас багата неспадзяваным матар'ялам. Ад пачатку беларускага нацыянальнага руху ня было чутно, каб у нашай вакрузе была адчытана недзе лекцыя ў беларускай мове на навуковую тэму.

Мы вельмі рады і цешымся, што маем хоць невялічкую жменьку інтэлігэнцыі, якая не адыходзіць ад нас, а ідзе разам, паказваючы той шлях, які вядзе да лепшага заўтра. Такое публічннае чытаньне лекцыяў, ладжаньне падобных вечарын застаўляе нас задумацца над сабою, над тым, што мы на многа адсталі ад іншых культурных народаў. Вельмі добра было бы, каб Галоўная Управа як мага шырэй разгарнула працу ў гэтай навуковай галіне на адкрытым полі Т-ва Беларускае Школы. 15-XI 1933 г.

---

Скончылася вечарына. Арганізатары зьвяртаюцца да прысутных за ахвярамі на пакрыцьце коштаў падарожы лектара. З усіх бакоў пасыпалі на сцэну прадстаўнікі перадавое часткі грамадзянства вакалічных вёсак, нясучы свой цяжкаю працаю здабыты грош на агульную справу. Балей паўгадзіны прыймаюцца ахвяры.

Гэты невялічкі абразок з жыцьця Т-ва, гэтыя пісьма і ахвяры паказваюць кожнаму чэснаму беларусу, што Т-ва Б. Школы зьяўляецца тым сьветлым ваконцам, праз якое промень навукі, мінаючы ўсе перашкоды, прабіваецца і далятае да сялянскае хаты. Толькі Т-ва па за школай (бо мы іх ня маем) змагло даць такіх разьвітых адзінак, добра знаючых родную мову, пісьма якіх друкуюцца ў кожным нумары нашага журнала.

# НАД СЬВЕЖАЙ МАГІЛАЙ.

**(Памяці Петра Першукевіча).**

У счастливого недруги мрут, —
У несчастного друг умирает.

*Некрасов.*

Тэлеграф прынёс у Вільню сумную вестку аб перадчаснай сьмерці Петра Першукевіча, студэнта IV курсу матэматыкі Віленскага Унівэрсытэту і сябры нашага Т-ва.

Маладое сэрца, багатае высокімі парывамі, перастала біцца.

Родная зямелька прымае на вечны супачынак таго, хто да апошняе хвіліны, да апошняе каплі сілаў служыў свайму народу.

Яшчэ так нядаўна Ён змагаўся, каб прачытаць у роднай вёсцы лекцыю „Культура і народ“, апошнюю са свайго популярнага цыклю.

Усё сваё маладое жыцьцё Ён ахвяраваў працоўнаму народу, ад якога сам паходзіць.

Змагар за лепшую долю народную, Ён у мінулым годзе абыйшоў Беласточчыну разам са сваімі калегамі, чытаючы лекцыі па вёсках. Водгукі сялянства да гэтай ахвярнай працы ўсім ведамы: „Заставайцесь у нас — просіць іх вёска, — карміць, паіць, даглядаць і адзяваць будзем“.

Да самай сьмерці, пакуль білась сэрца, Ён не зыходзіць з поля бітвы за асьвету народную.

Жыцьцярадасны, Ён заўсёды знаходзіў даволі энэргіі, каб змагаць перашкоды на сваім шляху.

Маладая галава не ўмела хіліцца перад няўдачамі: Ён даводзіў да канца задуманае і даводзіў так, як гэта можа рабіць толькі запраўдны змагар.

Гэта-ж Ён адзін з тых нямногіх, якія напоўнілі жыцьцём вялізарную будыніну, „Магазын“ у сваіх Нягневічах, робячы яго беларускім Народным Тэатрам і Народным Унівэрсытэтам.

Вольныя хвіліны ад умысловай працы Ён аддаваў працы фізычнай разам з тымі, каму служыў. Маючы крывавыя мазалі на сваіх руках, Ён умеў шанаваць іх таксама і на чужых. Зусім яшчэ мала сярод беларусаў такіх інтэлігэнтных сілаў, што усёй душой лучылісь бы з сялянствам і работніцтвам, і вось таму гэтая страта для нас асабліва балючая!

Пакрыўджаны і прыніжаны беларускі народ пазбаўляецца свайго маладога абаронцы, а наша Старонка слаўнага сына.

З глыбокім жалем і сумам схіляем голавы над сьвежай магілай!

---

З прычыны такое балючае страты адначасна выражаем сваё шчырае спачуваньне маладой зьмене, нашай моладзі ў Беларускім Студэнцкім

Саюзе, аўтарытэт якога Пятро Першукевіч так узвысіў у масах народных сваею натхнёнаю, адданаю працаю.

Каб не загубіць сваіх сьцежак у змаганьні, шчыльней станьце, сьціснуўшы адзін другому маладыя рукі, каб прадоўжыць працу, распачатую Тым, хто ўжо пакінуў Вашы і нашы рады.

Гэта будзе самы дарагі вянок на сьвежую магілу.

Слава і лепшы ўспамін няхай будзе Адышоўшаму на вечны супачынак!

**ФРАНУК ГРЫШКЕВІЧ.**

# Мы розныя.

Мы розныя, і розна ў нашы грудзі
Плыве паветра з бедных, родных ніў...
Дзівак калісьць казаў, што ўсе мы людзі,
Што ўсе мы роўна жыці будзем,
Бо ўсіх „адзін бог стварыў“.

Мы розныя, і розна ў нашы грудзі
Плыве паветра з бедных родных ніў...
Ішлі вякі. Вякі хто вас забудзе,
Вякі няпраўды, гора й зьдзеку ў брудзе,
Вякі цямноты, турмаў, дзіў.

Мы розныя, і розна ў нашы грудзі
Плыве паветра з бедных, родных ніў...
Чаму ты раньш, мой чорны, бедны людзе,
Не зразумеў, што кожны сам здабудзе
Сабе жыцьцё. А ты ўсьцяж мёртвым быў.

Мы розныя, і розна ў нашы грудзі
Плыве паветра з бедных родных ніў...
Хто выйшаў, каб забыці—той забудзе
Цябе, галодны браце, і служыці будзе
Таму, хто век цябе ўжо глуміць і глуміў.

Мы розныя, і розна ў нашы грудзі
Плыве паветра з бедных родных ніў...
Хто выйшаў, каб здабыці—той здабудзе;
Здабудзе той, з кім ты, мой чорны людзе,
Пойдзеш у бой, а з бою выйдзеш жыў.

м. Сухаволя, III. 1932.

# Рэформа беларускага правапісу.

Газэты падалі вестку, што дэкрэтам Савету Народных Камісараў у Б. С. С. Р. з 15-IX г. г. ўведзены новы беларускі правапіс. Гэтая вестка, рэч зразумелая, не магла не зацікавіць нашае грамадзянства. У Вільні рэформа правапісу абгаварывалася на публічных сабраньнях Інст. Белар. Культ. і Гасп. і Беларускага Навуковага Т-ва і ў газэтных стацьцях; аб рэформе дыскутуюць беларусы нават у прыватных гутарках. Як і можна было прадбачыць, адношаньне да новага правапісу выявілася не аднолькавае: пад той час, як адны безагаворачна адкідваюць новы правапіс, лічучы яго чыста — палітычнай акцыяй, праведзенай савецкім урадам для большага „абмаскоўленьня“ беларусаў і паніжэньня іхняе культуры (глядзі „Беларуская Крыніца“ ад 8-X 33 г. № 34 і „Родны Край“ ад 21-X 33 г. № 21), другія, згаджаючыся, што істнуючы правапіс ня ёсьць дасканальным, прызнаюць неабходнасьць яго рэформы, але не такім парадкам, як гэта сталася, і каб гэтая рэформа кіравалася не чужымі ўзорамі, а была натуральнай, беларускай. („Шлях Моладзі“ № 10).

Нас гэтае пытаньне цікавіць пераважна з пункту гледжаньня пэдагагічнага. Практыка ўжываньня правапісу ў школе і па-за школай — гэта мо' ёсьць самы важны бок справы, і першы голас тут прыналежыць іменна пэдагогам, — да таго-ж у гэтым кірунку дасюль, падчас дыскусіі, у нас зусім не было зьвернена ўвагі. Па другое, з тае прычыны, што рэформа правапісу разглядаецца без усялякае сувязі з папярэднімі спробамі зьмяніць правапіс, трэба падыйсьці да гэтага пытаньня і з пункту гледжаньня гістарычнага. Толькі пры такой умове зробленая ў Б.С.С.Р. рэформа выявіцца перад намі ў належным асьвятленьні.

Першы навукова апрацаваны правапіс даў у 1918 годзе ў сваёй „Беларускай граматыцы для школ“ Б. Тарашкевіч. Зьмешчаны ў „Граматыцы“ правапіс прыняты быў у навуцы і ў школьным ужываньні аднолькава як у Заходняй, так і ўва Усходняй Беларусі. Уся далейшая навуковая апрацоўка белар. правапісу вялася на падставе „Граматыкі“ Тарашкевіча. Рэч зразумелая, што як першая спроба, пры няпоўнай яшчэ вывучанасьці белар. мовы і яе шматлікіх дыялектаў ці гаворак, пры сталай цякучасьці жывое мовы, граматыка Тарашкевіча не магла даць дасканальнага правапісу. Ужо сам аўтар заўважыў у сваёй працы пэўныя недахопы, якія не залежалі ад яго і выпраўленьне якіх пакінуў ён на далейшы час. На гэта паказваюць наступныя радкі ў прадмове Т. да „Граматыкі“ (выд. 1929 г.):... „аўтар сам бачыць дужа выразна цэлую чараду спрэчных пытаньняў (у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і др.), бачыць *патрэбу і магчымасьць спрашчэньня,* але не бярэцца праводзіць якія-колечы паважнейшыя зьмены такім індывідуальна — партызанскім спосабам, накідваючы свой праект праз школьны падручнік. Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласьці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў. Адпаведныя праекты павінны прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыцьцё аўтарытэтам культурных установаў“.

Патрэба спрашчэньня выявілася асабліва пасьля таго, як правапіс перайшоў у школы і яго сталі вучыцелі выкладаць, а вучні вучыць. Правапіс быў вельмі цяжкім для ўсваеньня вучнямі і, як такі, стаяў на пе-

рашкодзе для пашырэньня граматнага пісьма паміж працоўных мас. Што правапіс цяжкі, аб гэтым перадусім засьведчылі вучыцелі тых звыш 4—5 тысячаў беларускіх пачаткавых школ, якія адчынілся ў Б.С.С.Р. у працягу першых гадоў па аканчаньні вайны. Іх голас сваё выражэньне знайшоў у рэзалюцыях Усебеларускай Літаратурна-Лінгвістычнай Канфэрэнцыі ў Менску ў верасьні 1926 г. і Вышэйшых Курсаў Беларусазнаўства ў Менску-ж 15-XI. 1926 г. Рэзалюцыя Канфэрэнцыі гаворыць так: „К. прызнае канечную і безадкладную патрэбу рэформы бел. правапісу, каб зрабіць яго легкім, простым і даступным для школы і шырокіх працоўных мас, бо цяперашні правапіс патрабуе шмат часу і энэргіі на навучаньне некаторых цяжкіх і непатрэбных правіл“. Рэзалюцыя, прынятая на Курсах, таксама сьцьвярджае „неабходнасьць рэформы правапісу, бо на істнуючых прынцыпах бел. пісьма памянёнае вывучаецца штучна, бяз пэўнае паступовасьці, што складае асаблівую цяжкасьць па вывучэньню бел. мовы“ („Працы Менскае Акадэмічнае Канфэрэнцыі“, стр. 274—275).

Такое дасьведчаньне, паралельна навуковым досьледам, якія рабіліся пры Інстытуце Беларускае Культуры ў Менску, было адною з галоўных пабудак скліканьня ў Менску 14—21-XI. 1926 г. *Беларускае Акадэмічнае Канфэрэнцыі, якая спэцыяльна была прысьвечана рэформе беларускае азбукі і правапісу.* Канфэрэнцыя ў выніку цэлага раду дакладаў і дыскусыяў вынесла да 10 рэзалюцыяў па правапісу, датычачых таго ці іншага правіла. Аднадушнасьці ў паглядах на тыя ці іншыя пытаньні правапісу на Канфэрэнцыі наагул ня было; наадварот, заўважывалася вялікая разьбежнасьць. Канфэрэнцыя не зрабіла грунтоўнае зьмены правапісу, не прыняла пад увагу культурнага і тэхнічнага ўзросту жыцьця па тую старану мяжы, і таму праблема далейшае рэформы не схадзіла з парадку дзеннага аж да сяньняшняга дня.

У бягучым годзе 28 чэрвеня Інстытут мовазнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук у Менску апублікаваў „праект спрашчэньня бел. правапісу, каб ён быў даступным для шырокіх мас і лёгкім для школ“. У канцы праекту зазначана, што ён падаецца для дыскусіі;—усе беларускія навуковыя ўстановы і культурныя арганізацыі запрашаліся прысылаць крытычныя спасьцярогі ў Акадэмію Навук, дзе яны будуць узяты пад увагу.

28.VIII б. г. дэкрэтам Савету Народных Камісараў праект Акадэміі Навук „Аб зьменах і спрашчэньні бел. правапісу“, у сваёй рэдакцыі блізу зусім супадаючы з чэрвенёвым, пастаноўлена ўвесьці ў жыцьцё на ўсёй тэрыторыі Б.С.С.Р. Як падкрэсьлена ў дэкрэце, мэтаю рэформы, калі не закранаць палітычных момантаў („выгнаньне з бел. правапісу нацыянал-дэмакратычных уплываў і скажэньняў“), зьяўляецца: „палягчэньне шырокім працоўным масам вывучэньня бел. пісьменнасьці, аслабаненьне школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэньні бел. правапісу ў мэтах далейшага разьвіцьця культуры бел. мовы“...

Новы правапіс зьявіўся ў выніку пэўнай падгатаваўчай працы. Не падлягае сумліву, што ўсе зьмены, зробленыя ў правапісу, не выпадковыя, што яны выкліканы жыцьцём, і ў гэтым ёсьць апраўданьне рэформы, якая ў нас у пэўных колах спаткана з такім безагаворачным асуджэньнем.

Новы правапіс, згодна дэкрэту, мае пашырэньне на тэрыторыі Б.С.С.Р. Пастараемся разгледзіць яго з пункту гледжаньня прыгоднасьці для Заходняе Беларусі.

Каб лепш разабрацца ў новым правапісе, які складаецца з 27 правілаў, мы дзелім іх на тры групы: у першую залічаем тыя правілы, якія відавочна і безпасярэдна даюць спрашчэньне правапісу; у другую—залічаем

тыя, якія перадусім маюць на мэце наданьне правапісу большай выразнасьці, дакладнасьці і аднастайнасьці; да трэцяй групы мы адносім некалькі правілаў, якія — па нашай думцы — зьяўляюцца спрэчнымі і якія ня толькі не палягчаюць, а мо' яшчэ больш ускладняюць правапіс.

### Першая група правілаў.

1) Яшчэ Менская Акадэмічная Канфэрэнцыя пастанавіла: калі „Е" стаіць у другім складзе перад націскам, то яно не падлягае аканьню, таму: Беларусь, а не Бяларусь; абмежаваць, а не абмяжаваць і пад. Гэтае правіла, толькі больш пашыранае, паўтараецца цяпер і новым правапісам, які пастанаўляе: *толькі ў першым складзе перад націскам заўсёды пішацца „Я"* (дзе чуецца „Е"), *у іншых жа выпадках як перад націскам, так і пасьля націску пісаць „Е,* таму: сярмяга, цярпеньне; беразьняк, невыразны; верацяно, велічыня; вецер, вынесла, зачынена і др. Гэтую зьмену — чытаем далей — *не пашыраць на этымолёгічнае „Я", якое застаецца нязьменным у ненацісканых складох* (ярмо, ярына), — *не пашыраць і на „Я" ў канчатку слоў* (полымя, грэбля, няволяй). Каб лепш бачыць, якое маем тут спрашчэньне, прыпомнім існуючыя правілы адносна т. зв. аканьня (Грам. Тарашкевіча стр. 111), якія цяпер касуюцца рэформай: а) у першым складзе перад націскам на месцы „Е" заўсёды пішацца „Я"; б) у другім складзе „Е" замяняецца на „Я" толькі тады, калі ў першым няма „А" або „Я"; калі-ж у першым складзе ёсьць „А" — „Я", то ў другім пішацца „Е"; в) у трэцім і далейшых складох „Е" ніколі не замяняецца на „Я"; г) апрача таго, яшчэ два параграфы прысьвечаны ў Тарашкевіча правапісу „Е" ў мягкіх складох пасьля націску, з 10 ці больш выключэньнямі. „З гэтым правілам — гаварылася на Менской Акад. Канф. — трудна справіцца добра граматнаму чалавеку, а ня то, што школьніку, бо каб запісаць словы паводле гэтага правіла, трэба пішучы спыніцца, мысьленна палічыць склады ды яшчэ ад правай рукі к левай, потым паглядзець, што стаіць у першым складзе перад націскам, а ўжо пасьля гэтых камбінацыяў можна прыступіць да запісу слова. Гэта — як кажуць — сем раз прымер, адзін раз адрэж. Гэта — шарада, ламігалоўка, а не правіла, якое павінна дапамагаць у няпэўных выпадках" (Працы М. А. К. стр. 191). Калі бы мы маглі тут больш падрабязна разглядзець новае правіла, дык убачылі-бы, што па сутнасьці яно мала што і мяняе у правапісе слоў, падлягаючых аканьню, асабліва ў складох пасьля націску, за тое вельмі скарочвае правіла, якое цяпер будзе значна лягчэйшым для усваеньня. Як і раней, згодна новага правапісу трэба пісаць: заяц, памяць, міленькі, возера, каяцца, сіняга, добрыя, ходзячы, носячы, кітаец, сеяць, гоняў, лішняю і пад. Мо' новае правіла вельмі разыходзіцца з жывым вымаўленьнем? Для адказу на гэтае пытаньне трэба ўзяць пад увагу, што толькі пад націскам заўсёды чуем гук ясны і выразны, якога мяняць ня можна, а чым далей ад націску, асабліва да канца слова, тым вымаўленьне невыразьней і глушэй, і калі дзе ў вымаўленьні чуецца і так і гэтак, г. ё.: і „А—Я" і „Э—Е", дык чаму бы ўзапраўды і не замацаваць у пэўных выпадках аднастайнае пісьмо, што так важна для правапісу літаратурнае мовы. А што ўзапраўды вымаўленьне ў нас нязвычайна рознае, кожны можа падабраць таму шмат прыкладаў: будзя—будзе, наракая — наракае, куйця — куйце, страляіш—страляеш, восянь—восень, масьлянка—масленка, мяне—міне, цецярук—ціцярук—цяцярук і др.

II) Другое правіла новага правапісу: *„адмоўнасьць „НЕ" і прыйменьнік „БЕЗ", калі стаяць асобна, пішуцца заўсёды праз „Е"*: не бачу, без долі.

Па Тарашкевічу, треба пісаць: ня бачу, бяз долі, бо „НЕ“ і „БЕЗ“ стаяць тут перад націскам. Цяпер вучні ня будуць доўга думаць пішучы, а заўсёды, *калі гэтыя словы стаяць асобна*, будуць пісаць праз „Е“ і памылкі ня зробяць. У мове вельмі часты злучэньні „НЕ“ і „БЕЗ“ з іншымі словамі, пры чым кожны раз яны мяняюць свой правапіс у залежнасьці ад націску: невядома—няведама; недасьпелы, няўзьлічоны; ня ў свой час; не трудна; безграшоўе, бязьдоньне; бяз ладу — без парадку і пад. Таму ўзапраўды новае правіла значна палягчае пісьмо. І гэтае правіла, як і папярэдняе, было прынята — у тэй жа самай рэдакцыі — яшчэ Менскай Акадэмічнай Канфэрэнцыяй.

III) Згодна 3—4—6 правілам новага правапісу, *выкідваецца „Ь“ пасьля літараў З, С, Ц і ДЗ у пачатку і сярэдзіне слова, калі гэтыя літары стаяць перад мягкімі зычнымі, таму трэба пісаць*: снег, свет, свядомы, доследы, масць, часць, зняць, змяшчаць, кузня, казлянё, дзверы, дзме, цвярозы, цвёрды, мядзведзь і інш., але як і раней пішуцца: рэдзька, грозьба, касьба, Хвэська, Будзька, дзядзька, просьба, пісьмо і пад. *Выкідваецца „Ь“ такжа і паміж мягкімі падоўжанымі або падвойнымі зычнымі*: *ЗЗ, СС, ЦЦ, ДЗДЗ, ЛЛ і НН.* Таму трэба пісаць:

рыззё, з граззю, маззю, беззямельны, як і бяззубы;
калоссе, валоссе, кассё, Палессе, Беларуссю;
жыццё, багацце, смецце, куцця, безрабоцце, пачуццё;
суддзя, разводдзе, бязладдзе, ладдзя (так і па Тарашкевічу—стр. 121);
вяселле, купалле, соллю, раздолле, застолле, Галляш, але лье, салью;
насенне, пытанне, стварэнне, значанне, восенню і др.

Пытаньне аб выключэньні „Ь“ разглядалася і на Менской Акад. Канф., і хаця галасаваньня па гэтаму поваду і ня было, аднак падчас дыскусіі немала прамоўцаў выказалася за гэтую зьмену. Усё разыходжаньне датычылася пытаньня, ці графіка або напісаньне не адаб'ецца шкодна на вымаўленьні?—каб пад уплывам кнігі не зьявілася штучнае вымаўленьне: спіць, сніць, збіць замест сьпіць, сьніць, зьбіць і г.д? Прыхільнікі выключэньня „Ь“ паклікаліся на закон упадабленьня, згодна якога, калі поплеч стаяць два зычных, то папярэдні прыпадабняецца наступнаму, г. е. папярэдні зычны сам сабою будзе вымаўляцца мягка, як і наступны. І ўзапраўды, інакш будуць вымаўляцца намі словы: знаць, ссохне, ссукалі, расстаньне, быццам і пад., чым: зняць, рассмяшыць, рассцілалася, на куццю, сяння і др. Гаварылася такжа, што іменна цяпер абазначэньне „Ь“ вядзе да неправільнага вымаўленьня, бо вучні чытаючы разьдзяляюць: раль — ля, з гразь — зю, куць—ця і г. д., між тым, як тут не па два аднолькавых зычных, а па аднаму працягламу, чаму і ня трэба ўстаўкі „Ь“. Да таго-ж існуючыя правілы дапускаюць непасьлядоўнасьць у напісаньні „Ь“, на што зьвярнуў увагу праект Інстытуту мовазнаўства пры Б. А. Н.: так напр., згодна правіла, трэба было бы пісаць: у гаспадарсьцьве, пры камунізьме, вынесьлі, у сэньсе і пад., аднак мы так ня пішам, хаця і вымаўляем мягка. Нам здаецца, што калі ўзапраўды ёсьць небясьпека псаваньня характэрнае вымовы ў вышэй названых злучэньнях, дзе выкінуты „Ь“, дык гэту небясьпеку ня трудна ухіліць: трэба толькі пры навучаньні грамаце зварочваць увагу вучняў, як треба вымаўляць у падобных выпадках, а мы, дарослыя, і пры новым правапісе будзем вымаўляць, як і вымаўлялі. У украінскай мове ня ужываецца „Ь“, аднак на мягкасьці вымаўленьня гэта не адбіваецца, напр.: просвіта, обліччя, почуття, життя, бажання, пізнання, останні і інш.

Наагул бяручы, графіка і вымаўленьне — рэч вельмі ўмоўная. Няма ніводнае мовы, дзе была бы поўная суадказнасьць паміж пісьмом і вымаўленьнем. У нас шмат дыялектаў, і ў кожным у пэўных выпадках сваё вымаўленьне. Як зазначана ў вышэй успомненым праекце Інст. мовазн. Б. А. Н., у Случчыне гавораць: гальё, жыцьё, у Лідчыне і Слонімшчыне: галё, жыцё, ў паўночна-заходніх мясцовасьцях: гальлё, жыцьцё. Літаратурны правапіс павінен адбіваць пераважна адно якое вымаўленьне. Напасьледак, з пункту гледжаньня не філёлёга, а пэдагога вельмі важна і тое, што праз выкіданьне „Ь“ будзе зьберажэньне і уважлівасьці і часу вучняў, што можа быць выкарыстана для больш прадуктыўнай работы ў клясе. Шмат ёсьць слоў, у якіх выкідаецца адразу па дзьве літары, у напр.: разьвіцьцё, сьнеданьне, судзьдзя і др. У гэтым адношаньні маем т. ск. клясычны прыклад расейскае мовы, якая павінна была дачакацца рэвалюцыі, каб з мовы—на радасьць і вучыцялёў і вучняў—выкінуць такі баляст, як „Ѣ“ і „Ъ“. Да Тарашкевіча пісалі-ж без „Ь“, і аднак беларуская мова ня згубіла праз тое сваіх характэрных асаблівасьцяў у вымаўленьні. У „Зборніку НАШАЕ НІВЫ“ № 1 выд. 1912 г. ужываецца такая артаграфія слоў: Старасць не радасць. шэсць, сеннік, дасць, злічыць, здзекуюцца і інш.; праўда, сустракаюцца там і з „Ь“: сьнег, зьвер, прывольле і др.

IV) *Новы правапіс выключае канчаткі* ОМ — ОХ (ЁМ—ЁХ) *у назоўніках мужчынскага і ніякага роду ў давальным і месным склоне множнага ліку.* Таму трэба пісаць толькі так: нажам — аб нажах, братам — аб братах, плячам — аб плячах, ласям — аб ласях, вераб'ям — аб вераб'ях і г. д. Гэтае правіла, хаця і не адказвае вымаганьням гістарычнае граматыкі, аднак дае спрашчэньне, бо для ўсіх выпадкаў застаецца адна форма, якую вучням не трудна будзе запомніць. Канчаткамі АМ — ЯМ, давольны склон мн. ліку будзе адрозьнівацца ад канчаткаў ОМ—ЁМ, якія застаюцца ў творным склоне адз. ліку (пяском, канём, ласём). З жывым вымаўленьнем разыходжаньне будзе там, дзе пераважна ўжываюцца формы на ОМ—ОХ, але, як гаварыў на Мен. Акэд. Канфэрэнцыі праф. Бузук, формы ОМ — ОХ наагул мала пашыраны на Беларусі (Працы М. А. К. стр. 85).

V) *Новы правапіс выключае раўналежныя формы дзеясловаў на ЯЦЕ, ІЦЕ першага спраженьня цяперяшняга часу другой асобы множнага ліку, і загадвае пісаць толькі праз Е — Э:* чытаеце, знаеце, ідзеце, вядзеце, бярэце і т. д. Выключаемыя канчаткі ЯЦЕ, ІЦЕ хаця і сустракаюцца ў жывой мове, у розных дыялектах (гавораць і пішуць: нясіцё і несяцё, бярыцё і бераце, пячыцё і печацё), аднак пераважае форма ЕЦЕ — ЭЦЕ, і таму ўстанаўленьне для літаратурнае бел. мовы аднаго канчатку ў мэтах палягчэньня правапісу будзе толькі пажаданым. Тым балей праз гэта будзе захавана характэрная асаблівасьць формы дзеясловаў другога спражэньня, у другой асобе цяперашняга часу маючых заўсёды канчаткі ЫЦЕ — ІЦЕ: сядзіце, паліце, гаворыце.

(*Працяг будзе*).

Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

# Міжнародная мова Эспэранто.

(*Працяг*).

II.

Аўтарам міжнароднай мовы эспэранто зьяўляецца Лазар - Людвік Замэнгоф, доктар-окуліст нацыянальнасьці жыдоўскай, сын вучыцеля новых моваў у сярэдніх школах.

Л. Замэнгоф радзіўся ў Беластоку ў 1859 годзе. З паўстаньнем эспэранта найлепш знаёміць уласнае яго „Пісьмо аб паходжаньні эспэранто", напісанае ў 1896 годзе; з выняткамі з гэтага пісьма мы і пазнаёмімся.

„Ідэя дзеля здзейсьненьня, якой я ахвяраваў усё сваё жыцьце паўстала ў мяне — сьмешна гэта сказаць — у самым раньнім дзяцінстве і з таго часу ніколі мяне на пакідала: я жыў з ею і нават ня мог уявіць сябе без яе. Гэта акалічнасьць часткова можа вытлумачыць, чаму я, не гледзячы на ўсялякія перашкоды і прыкрасці, не пакідаў гэтай ідэі, як рабіла шмат другіх, працаваўшых на гэтай ніве.

„Беласток, гдзе я радзіўся і правёў дзіцячыя гады, даў напрамак для ўсіх маіх пазнейшых імкненняў. У Беластоку жыхарства складаецца з чатырох розных элемэнтаў: рускіх, палякаў, немцаў і жыдоў. Усе гэтыя элемэнты гавораць рознымі мовамі і варожа адносяцца адны да адных.

„У гэтым горадзе, больш чым гдзе, ўражлівая натура адчувае цяжар рознамоўнасці і пераконваецца на кожным кроку, што рознасьць моваў ёсьць адзіная, а прынамсі галоўная прычына, якая дзеліць чалавечую сям'ю на варожыя часткі. Меня выхавалі ідэалістам, мяне вучылі, што людзі — браты і адначасна на вуліцы і на панадворку ўсё на кожным кроку змушала мяне адчуваць, што не існуюць людзі, а толькі рускія, палякі, немцы, жыды і г. падоб. Гэта заўсёды мучыла маю дзіцячую душу, хаця шмат хто магчыма усміхнецца над гэтым „болем аб сусвеце" у дзіцяці.

„Дзеля таго, што мне здавалася тады, што „дарослыя" маюць нейкую ўсемагутную сілу, я паўтараў сабе, што як зраблюся дарослы, тады ўхілю гэтыя злыдні.

„Па-крысе я зразумела пераконваўся, што ўсё ня робіцпа так легка, як гэта прадстаўляецца дзіцяці; я адкідаў адну за аднэй розныя дзіцячыя ўтопіі — адну толькі мару аб аднэй чалавечай мове я ніколі ня мог адкінуць. Неясна мяне цягнула да яе без ніякіх акрэсьленых плянаў. Я не памятаю калі, але ў кожным выпадку досіць рана ў мяне склалася сведамасьць, што адзіная мова павінна быць толькі нейкай нэйтральнай, не належачай да ніводнага з жывучых цяпер народаў. Калі з Беластоцкай рэальнай школы (тады яна была яшчэ гімназіяй) я перайшоў у Варшаўскую другую клясычную гімназію, мяне праз нейкі час прынаджвалі старажытныя мовы і я марыў аб тым, што некалі буду ездзіць па ўсяму свету і гарачымі прамовамі схіляць людзей да ажыўленьня аднэй з гэтых моваў дзеля агульнага ўжытку. Пазней, не памятаю ўжо якім парадкам, я прыйшоў да моцнага пераконання, што гэта немагчыма, і я пачаў неясна марыць аб новай штучнай мове.

„Я часта тады пачынаў спробы выдумляючы найбагацейшыя скланенні, спраженні і г. п. Аднак чалавечая мова са сваей, як здавалася мне бясконцай масай граматычных форм, з соткамі тысячаў слоў, якімі

страшылі мяне таўстыя слоўнікі, здавалася мне такой штучнай колёсальнай машынай, што не адзін раз я казаў сабе: „Проч мары! Гэта праца вышэй чалавечых сіл“,—аднак я варочаўся да сваей мары.

„Нямецкай і францускай мовы я навучыўся ў дзіцячым веку, калі яшчэ нельга параўноўваць і рабіць вывады, але калі перайшоў у пятую клясу гімназіі, я пачаў вывучваць ангельскую мову; прастата ангельскай граматыкі кінулась мне ў вочы, асабліва дзякуючы крутому пераходу да яе ад граматык лацінскай і грэцкай. Я ўбачыў тады, што багацце граматычных форм ёсьць толькі сьляпое гістарычнае здарэньне, а ня ёсьць неабходнае для мовы.

Пад уплывам гэтага я пачаў адкідаць непатрэбныя граматычныя формы і заўважыў, што граматыка што раз больш, як лёд тае ў маіх руках—і хутка дайшоў да маленачкай граматыкі, якая без шкоды для мовы займала ўсяго некалькі старонак. Тады я пачаў больш сур'ёзна аддавацца маей мары. Аднак вялізарныя слоўнікі не давалі мне супакою.

„Аднойчы быўшы у 7-ай клясе гімназіі я прыпадкова звярнуў увагу на надпіс „Швейцарская“, які шмат разоў ўжо бачыў і пасьля на вывеску „Кондитерская“. Гэтае „—ская“ зацікавіла мяне і паказала мне, што суфіксы (ўстаўкі) даюць магчымасць з аднаго слова тварыць іншыя словы—, якіх ня трэба нанова вывучваць. Гэтая думка захапіла мяне і я пачуяў грунт пад сваімі нагамі. На страшэнныя вялічэзныя слоўнікі ўпаў прамень сьвятла і яны началі раптоўна зьменшацца перад маімі вачыма. Хутка пасьля гэтага я меў напісаную ўсю граматыку і невялічкі слоўнік.

„Колькі слоў об матар'яле для слоўніка. Пачаткова я хацеў і да слоў тасаваць прынцып экономіі, выдумляючы найкарацейшыя словы, прыкладам замест слова з 10-х літэраў „размаўляць“ можам тую самую думку выказаць якім-колечы 2-літэрным, прыкладам „па“. Таму я пісаў математычны рад найкарацейшых лёгка вымаўляных злучэньняў літэраў, кожнаму з іх даючы значаньне акрэсленага слова, прыкладам, a, ab, ac, ad... ba, ca, da... і г.д. Аднак гэтую думку я зараз жа адкінуў, бо спробы з сабой самым паказалі мне, што гэтыя выдуманыя словы вельмі цяжка вывучыць і яшчэ цяжэй запамятаваць. Тады ўжо я пераканаўся, што матар'ял для слоўніка павінен быць романа-германскі. Стоючы ужо на гэтым грунце хутка я зацеміў, што сучасныя мовы маюць вялікі запас ужо гатовых слоў міжнародных, якія вядомы ўсім народам і твораць скарб для будучай міжнароднай мовы. Зразумела я скарыстаўся гэтым скарбам.

У 1878 годзе мова была ўжо больш-менш гатовая, хаця між тагачаснай „лінгва унівэрсале“ і цяперашнім эспэранто была яшчэ вялікая рожніца. Я расказаў аб ёй маім таварышам (тады я быў у 8-ай клясе гімназіі). Большасьць іх прывабіла гэтая ідэя і задзівіла лёгкасць мовы — яны пачалі вывучваць яе. 5-га снежня 1878 г. мы усе разам урачыста сьвяткавалі нарадзіны мовы. Падчас гэтага сьвяткавання мы гаварылі прамовы і пяялі гымн у новай мове, змест пачатку гімна быў: „хай згіне ненавісьць між народамі, уся людзкасць няхай злучыцца ў вадну сям'ю“ На стале ляжала некалькі перакладаў у новай мове. Праз паўгода пасля свята мы кончыўшы гімназію ўсе разыйшліся.

Будучыя апостолы мовы спаткаўшы насмешкі дарослых людзей, зракліся яе і я застаўся адзін.

„Так скончыўся першы пэрыяд мовы. Быўшы яшчэ за малады, каб выступіць публічна, я рашыў пачакаць гадоў 5—6, каб выпрабаваць мову і апрацаваць яе на падставе практыкі.

„У працягу $5^1/_2$ гадоў прабываныя ў унівэрсытэце я ніколі не гаварыў з кім-колечы аб сваей справе. Змушаны пільна хаваць свае думкі і пляны я амаль нідзе не бываў, у нічым не прыймаў удзелу і найпрыгажэйшы час жыцця — студэнскія гады — былі для мяне найсумнейшыя.

„У працягу шасцёх гадоў я працаваў над удасканаленнем і спробамі мовы — і меў даволі працы, хаця ў 1878 годзе мне здавалася, што мова ўжо зусім гатовая.

„Скончыўшы унівэрсытэт я пачаў сваю лекарскую практыку. Цяпер я пачаў думаць аб публічным выступе з сваей працай. З прычын фінансавых у працягу двух гадоў я не мог знайсці выдаўца і ўрэшце ў ліпені 1887 годзе выдаў сам сваю першую брашуру: „Д-р Эспэранто. Міжнародная мова. Прадмова і слоўнік".

„Перад гэтым я адчуваў, што стаю перад Рубіконам і я ведаў, які лёс чакае доктара, залежнага ад публікі, калі гэтая публіка бачыць у ім фантазёра, чалавека, які займаецца пабочнымі справамі; я бачыў, што стаўлю на карту ўвесь будучы супакой і існаванне сваё і сваёй сям'і. Аднак я не мог пакінуць гэтую ідэю, якая ўвайшла ў маё цела і кроў... я перайшоў Рубікон".

Дадамо некалькі падрабязнасцей. Да 1887 году здавалася, што бацька спагадаў яго працы дзеля міжнароднай мовы, але пазней некалькі прыяцеляў напалохалі яго кажучы, што сын хутка звар'яцее, калі пазволіць яму займацца далей гэтай небяспечнай неадчэпнай думкай.

Бацька змусіў сына абяцаць, што той адложыць сваю справу да скачнэння унівэрсытэту і дастаў ад яго ўсе рукапісы. Пасля кіраваны любовяй да сына ён спаліў тайком усе паперы. Аднак Людвік-Лазар ведаў на памяць усю сваю працу і нічога не прапала.

У 1887 голзе (9-га жніўня) Замэнгоф ажаніўся з Клярай Зільбэрнік, якая памагала і дадавала бадзёрасці мужу ў яго працы. Цесць яго таксама цікавіўся гэтай справай і памог выдаць першыя кніжкі.

(*Далей будзе*).

# Хроніка Т-ва Бел. Школы.

**На паседжаньні Галоўнай Управы** 20.XI між іншым пастаноўлена:

Склікаць Акружныя Сходы у Беластоку і Ваўкавыску, даручыўшы Беластоцкай Акружнай Управе фармальную падрыхтоўку да іх.

Узнавіць працу па дамаганьні беларускае школы і, прымаючы пад увагу палючую безадкладную патрэбу асьветы у беларускай мове, адначасна арганізоўваць на вёсках групы самаадукацыі і курсы для дарослых.

Паразумецца з Беларускім Студэнцкім Саюзам Віленскага і Варшаўскага Ун-таў дзеля выкарыстаньня калядных канікулаў на чытаньне лекцыяў на правінцыі.

Рыхтавацца да Агульнага Сходу на пачатку 1934 году.

У „Летапісу" замешчаць артыкулы, якія маглі бы служыць рэфэратамі для гурткоў і курсаў самаадукацыі.

Прыняць кандыдатуру загадчыцы бібліятэкі Улезлоўскага г-ка Шчыглінскай М. на пачэснага сябра Т-ва.

* * * Наваградзкі Стараста **завесіў** Цырынскі г-к, які даўно быў унерухомлены усякімі забаронамі і перашкодамі.

## Беластоцкі павет.

* * * **Белявіцкі** г-к першы з Беласточчыны, які даў **справаздачу** аб усей сваёй працы. Засн ованы г-к 9. I. 32 г. і налічваў сябраў 41; мае бібл.-чыт., дзе па вечарам вядзецца супольнае чытаньне кніжак і газэт. Гімназісткай з іхняй вёскі былі прачытаны лекцыі з літэратуры і гісторыі. Лік сябраў г-ка павялічыўся да 51.

У канцы верасьня г. г. адбыўся сход г-ка, на якім заслухана справаздача з дзейнасьці Управы г-ка: курсы самаадукацыі, чытаньне лекцыяў і інш; сход прызнаў, што работа вядзецца добра. На заканчэньне сходу сябра г-ка Я. Гаротны прачытаў свой верш з бадзёрым заклікам ісьці да працы.

* * * **Беластоцкая Акр Управа** пастанавіла з 19. XI. узнавіць працу на курсах для дарослых у Гародоцкай гміне і на кіраўніка курсаў запрасіць Тацяну Лукашык, матурыстку Наваградзкай Беларускай Гімназіі. Дзеля адчытаньня лекцыяў — пастанавілі ізноў запрасіць беларускіх студэнтаў.

## На Палесьсі.

* * * **Ліквідацыя беларускіх бібліятэк-чытален**. Мінулым летам адміністрацыяй зьлікідаваны бібліятэкі-чытальні і гурткі у вёсках **Косаўскага** павету: Міхнавічах, Юрашках, Калазубах, Скуратах, Юкавічах, Заполянах, Квасавічах, Галенчыцах, Пастарыні, Аляксейках, Размерках, Сьнекоўшчыне, Варанілаўцах, Байках, Блізной, Старажоўшчыне, Ёдчыках, Бусягах, Агародніках, Гошчаве, Кулешах, Бярэзаніцах, Буцьках, Яглевічах, Шчытном, Уласаўцах, Бялевічах і ў **Пружанскім павеце:** у в. Хвалаве, Шэнях, Залесьсі II. Зьліквідавана 30 гурткоў, зачынена 30 бібліятек, зьвернена у Гал. Упр., як астаткі, 10 пудоў чытаных і перачытаных беларускімі сялянамі кніг!

Перад ліквідацыяй г-кам рабіліся прапановы перабудавацца на польскія арганізацыі, аднак ані адзін не згадзіўся на гэта: усе яны прынялі пачэсную сьмерць, астаючысь вернымі сваім народным ідэалам.

## Сьвянцянскі павет.

* * * **Баранскі гурток** Таварыства Беларускае Школы, заложаны ў пачатку сёлетняга году, зьяўляецца адзіным гуртком Т. Б. Ш. на ўвесь павет. Ня значыць гэта, што тутэйшае жыхарства знаходзіцца ў нейкім летаргу, а значыць тое толькі, што народ застрашаны, баіцца закладаць і ўступаць у беларускія арганізацыі. У нашым павеце, беларуская культурная праца спатыкае вялікія перашкоды.

Аднак перашкоды гэтыя трапілі на сільны адпор мяйсцовае моладзі. Ніхто з сябраў ня думаў нат адказацца ад свайго падпісу. І ў канцы канцоў гурток зацьвердзіў Сьвенцянскі Павятовы Стараста.

Перш найперш было зладжана прадстаўленьне ў сваёй вёсцы. Калі-ж мы зажадалі паставіць тыя-ж п'есы ў чужой вёсцы, дык спаткаліся з адмовай Сьвенцянскага Старасты. У гэтай справе зложана намі жалаба Віленскаму Ваяводзе, але мінае ўжо паўгоду без ніякага адказу.

Далей узяліся за арганізацыю бібліятэкі. Хто з сябрай меў якую кніжку — ахвяраваў у бібліятэку. І ўжо 30 траўня было ў нас 130 тамоў. З гэтага-ж часу пачынаем выдаваць кніжкі, і бібліятэка паволі разрастаецца. Бібліятэкарам выбраны сябра Віктар Ілюк. Пры бібліятэцы знаходзіцца і чытальня. Выпісваем 12 часопісаў. Сяньня ў бібліятэцы маем 254 тамы. З гэтых:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| у | беларускай | мове | — 155 | кніг |
| у | польскай | мове | — 66 | „ |
| у | расейскай | мове | — 29 | „ |
| у | нямецкай | мове | — 3 | „ |
| у | украінскай | мове | — 1 | „ |

Тут мушу зазначыць адну рэч адносна беларускіх выдавецтваў. Гэта: недахоп кніг для дзяцей у беларусскай мове. Дзеці, якія ходзяць у польскія школы, летам маюць шмат вольнага часу й вельмі ахвота горнуцца да кніжак. Але тут бяда — няма што ім даць. Фактычна ня маем аніводнай добрай кніжкі, якую можна было-б даць дзесяці гадоваму дзіцяці. Ці ня лепш было-б, каб выдаўцы замест пускаць кніжкі дэвоцыйнага характару, або бязглуздыя „соньнікі“ — выдалі некалькі запраўды добрых кніг для дзяцей?! Бо тое, што ўжо маем з „дзяціннай літэратуры“ гэта толькі капля ў моры і яна ня можа задаволіць існуючых патрэбаў.

Яшчэ на гэтым мейсцы, вяртаючыся да нашай бібліятэкі, мушу ад імя Гуртка злажыць шчырую падзяку, тым арганізацыям і асобам, якія, ахвяроўваючы нам кн:гі, прычыніліся да павялічэньня бібліятэкі.

## Ваўкавыскі павет.

* * * **Даранеўскі** гурток паставіў радыё. У лік платы за радыё паступіла: ад сябраў гуртка 38 зл. 44 гр., ад спачуваючых сябраў 17 зл. 28 гр. і ахвяраў ад сялян 46 зл. 58 гр. На 160 зл. выданы вэксалі.

Спэктакль ладжаны на 14.Х. г.г. быў забаронены Ваўкавыскім Старастай з пагляду на бязпечнасьць і спакой публічны. На скаргу зложаную Беластоцкаму Ваяводзе адказу не атрымалі.

Гурток павялічыўся на 16 сябраў. Галоўнай Управай выслана гуртку беларуская бібліятэка.

Акуратную выплату сяброўскіх складак сябрамі Даранеўскага г-ка Галоўная Управа ставіць як прыклад іншым гурткам, вітае добрае зразуменьне імі ўсей важнасьці і карысьці для сялянства працы нашага Т-ва. Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка за матэр'яльнае падтрыманьне г-ка.

Шэсьць зл. сяброўскіх складак Галоўная Управа атрымала.

* * * **Гарбачоўскі** гурток прыняў пастанову выплачваць сяброўскія складкі рэгулярна упачатку кожнага месяца. 21.Х. адбыліся перавыбары Управы, склад якой цяпер наступны: сэкрэтар Зарэцкі Сьцяпан, скарбнік — Дзешко Андрэй, старшыня Харук Лукаш, загадчык бібліятэкі Марыля Гурын, заступнік сэкрэтара — Рыгор Палуянчык. У гуртку арганізавана харавая сэкцыя.

Заняткі на **вечаровых курсах** адбываюцца па серадам, суботам, нядзелям і сьвяточным дням ад 5-й да 8-й гадзіны вечара.

* * * **Улезлаўскі** гурток панёс вялікую страту: 26.IX. памёр сябра г-ка Антон Прохор с. Міхася. З гэтае прычыны выражаем г-ку свое шчырае спачуваньне.

* * * **Забарона**. На скаргу Галоўнае Управы Беластоцкаму Ваяводзе аб забароне Ваўкавыскім Старастай дзейнасьці гуртка у в. Грыневічы, Ізаб. вол. атрыманы таксама адмоўны адказ.

* * * **Ельцаўскі** г-к для кіраваньня **курсамі** для дарослых выбраў сталую камісію з 3-х асобаў: Антона Грыневіча, Мікалая Бакача і Петра Ляхоўскага. Вячэрнія заняткі з непграматнымі і малаграматнымі распачаліся с першага кастрычніка. Ад Семухі г-к не зладзіў не воднага спэктаклю; прычына — немагчымасьць атрымаць дазволу.

* * * **В.-Грынкаўскі** г-к за 9 месяцаў бягучага году зладзіў 6 спэктакляў у сваёй вёсцы і адзін у Добраволі. Заняткі **на курсах** з неграматнымі і малаграматнымі адбываюцца 2 разы ў тыдзень па аўторкам і чацьвергам. Харавая і драматычная сэкцыі працуюць у сьвяточныя дні. 22. Х. г. г. г-к **урачыста адсьвяткаваў 5-летні юбілей сваей працы.**

Управа гуртка складае падзяку усім асобам, які прышлі г-ку з матэр'яльнай дапамогай сваімі дабравольнымі ахвярамі.

* * * Праца **б. Нязбодзіцкага г-ка** распачалася 11. XII. 32 году. Нягледзячы на шматлікія перашкоды, невялікая жменька сябраў пачала паступова змагацца з цемраю, знаёмячы сялян у першаю чаргу з беларускаю літэратураю. Частка моладзі пад уплывам аднаго п'яніцы наставілась варожа да нас і пачала хадзіць на польскія курсы, заклікаючы туды другіх, пераважна дзяўчат. На агульным сходзе 5 лютага б. г. гурток прымае пастановы: як найхутчэй арганізаваць драматычную сэкцію, зладзіць спэктакль, адчыніць біблітэку-чытальню і вучыць дзяцей чытаць і пісаць па беларуску. Беластоцкая Акр. Управа прыслала для карыстаньня г-ку 85 кніг у беларускай мове у гэтым ліку 14 падручнікаў. Гэта дадало нам энергіі у працы пашырэньня народнае сьведамасьці. 19 лютага адбыўся першы спэктакль з пьесамі: „Пасланец" і „Птушка шчасьця" і з дэклямацыяй вершаў М. Васілька. За адзін дзень змайстравалі сцэну, намалявалі дэкарацыю лесу, прыбралі салю патрэтамі нашых пісьменьнікаў, нацыянальнымі сьцягамі і лёзунгамі Т-ва. Зацікаўленьне было вялікае, сабралась моладзь з далёкіх вёсак, прышлі і нашы хлапцы, якіх усе называлі польскімі курсантамі. Пасьля спэктаклю моладзь асталася на танцах, а старэйшыя сяляне разыходзіліся па хатам з вялікім задаваленьнем, кажучы, што хоць на старасьці лет давялося пабачыць спэктакль у сваёй роднай мове. Хлапцы, якія раней сьмяялісь над намі, гутарылі між сабою, што ТБШ. арганізацыя „не кепская"; „яна вызваляе з цемры — казалі яны — вядзе па праўдзіваму шляху, па каторому і мы павінны пайсьці". Некаторыя нават набралі ахвоты стаць сябрамі ТБШ, толькі сароміліся сваіх брыдкіх папярэдніх слоў. Другі спэктакль адбыўся 26 сакавіка. Перад спэктаклем нашы абвесткі у м. Ялоўцы былі сарваны стшэльцамі, якім хацелась, каб перашкодзіць нам. Пасьля гэтага спэктакля прасілі дазволу яшчэ на два спэктаклі, але **атрымалі забарону**. За ўвесь час ад спэктакляў .і сяброўскіх складак паступіла даходу 102 зл. 85 гр. якія выданы на культурна-асьветныя мэты. 31 траўня атрымалі пастанову Ваўкавыскага Старасты аб завешаньні г-ка, а 22 верасьня аб развязаньні. Атрымаўшы такую сумную вестку, моладь пачала рыхтавацца, каб залажыць г-к у в. Зарэчная. Але і там нас спатыкаюць труднасьці. Праз нейкі час двох нашых сябраў-работнікаў Я. Урбіцкі з в. Зарэчная і Я. Нехайчук з Нязбодзічы, якія працавалі ад 1926 году пры чыгуначнай ст. Сьвіслач, пазбаўлены працы за тое, што належаць да ТБШ. А калі яны пачалі дамагацца, каб вярнулі да працы, то ім адказалі: „Вы хацелі культуры і асьветы, то будзьце ею сытыя, а на рэшце гэта для вас маральная кара, лепшая чым турэмная". Цяпер гурток разьвязаны. Агонь пагас, ано асталіся іскры, якія ў маладых грудзёх разгараюцца у полымя далейшага адраджэньня нашага народу, толькі ня трэба спадзявацца, што нехта прыдзе і дапаможа, а трэба самым брацца шчыра да працы.

**У. Змагар.**

* * * Галоўная Управа прыносіць шчырую падзяку сябрам б. Нязбодзіцкаго г-ка за ахвяры на фонд Г. Управы і за іхнюю адданую працу на карысьць нашаго працоўнаго Народу.

## Горадзенскі павет.

* * * У в. **Зубры,** Галынскае вол. заложаны г-к з лікам сябраў 23.

У склад Управы уваходзяць: старшыня Нікіцік Васіль, сэкрэтар Ціунчык Якім, скарбнік — Макарэвіч Аляксандар. Заступнікі: старшыні — Сямёнчык Васіль, сэкрэтара — Сямёнчык Сымон. Прыняты постановы арганізаваць бібліятэку, чытальню і курсы для дорослых.

### Наваградзкі павет.

* * * У в. **Новая Весь,** Нягневіцкае вол. заложаны г-к 15. Х. г. г. У склад Управы гуртка выбраны: на старшыню Аляксандар Карповіч, на сэкрэтара Янка Сазановіч і на скарбніка Грыгор Першукевіч. У наглядную Раду выбраны: Хадоско Янка і Жарскі Янка.

Прыняты пастановы залажыць бібліятэку-чытальню і курсы для дарослых і утварыць тэатральную сэкцыю. Гурток залажыўся пры 16 сябрах, а ў лістападзе павялічыўся да 41.

---

* * * **Новыя гурткі** закладаюцца ў вёсках: Нагуевічы, Слонімскага павету, Падкасоўе, Баярска-Пабрэзе і Балотцэ-Клінцы, Наваградзкага павету, Пачуйкі, Хамантоўцы і Боброўнік, Горадзенскага павету, Жарабковічы, Баранавіцкага павету, Добрай Волі, Ваўкавыскага павету і Задубеньні, Вялейскага павету.

### Стаўпецкі павет.

* * * **Падзяка.** Галоўная Управа атрымала 5 зл. на падтрыманьне „Летапісу“ ад хлапцоў вёскі Кожава і Лукі. Грошы гэтыя, сабраныя ад маладых, як „устрэчнае“, сынкі вясковых багацеяў хацелі павярнуць, як заўсёды, на выпіўку, аднак, дзякуючы сьвядомасьці большасьці хлапцоў і асабліва А. Хіневіча, Ўладз. Штыцка і Аркадзя Хіневіча, былі скіраваны для дабра агульнага, на „Летапіс“. Галоўная Управа, выражаючы падзяку моладзі вышэйпададзеных вёсак, ставіць іх, як прыклад грамадзкай сьведамасьці, для іншых вёсак Зах. Беларусі.

## ВЫКАРЫСТАЕМ ВОЛЬНЫ ЧАС.

Ужо цяпер мы павінны добра падумаць над тым, як выкарыстаць вальнейшы час у надыходзячую зіму з яе доўгімі вечарамі. Кожны гурток павінен улажыць плян з канкрэтнымі тэмамі, які паказваў бы, чаго мы хочам дасягнуць, якую працу маем прарабіць, хто за што адпавядае і які час вызначаецца яму на даручаную працу. Вельмі важна ведаць дзе, калі і перад кім, кожны дае адказ за зробленае. Гэты плян, прыкладна, можа быць такім:

| №№ | Што трэба зрабіць | Каму даручана праца | Да якога часу выканаць | Як даручаная праца выканана |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Утварыць групу самаадукацыі ў в. .......... | Адказныя асобы: .......... | Да 25.Х 1933 г. | Заслухалі і прызналі: праца выкана добра утворана 2 групы. |
| 2 | Распаўсюдзіць „Летапіс“ 50 экз. ў акалічных вёсках, сабраць грошаў ня меньш 30 зл. | Адказныя асобы: .......... .......... | Да 20.Х 1933 г. | Праца выкана не здавольняюча, распаўсюджана 35 экз., грошаў сабр. 20 зл. |

Вось з гэткім добра распрацованым плянам трэба прыйсьці на сход гуртка, каб даць магчымасьць кожнаму з сябраў прыняць актыўны удзел у пашырэньні творчае думкі, накіраванае на разьвіцьцё нацыянальнага усьведамленьня нашае сярмяжнае вёскі.

Пасьля сходу ніхто ні павінен выйсьці, няведаючы таго, што яму рабіць заўтра. Кожны мусіць памятаваць, за якую галіну культурна-асьветнае працы ён нясе адказнасьць і калі дае сваю справаздачу перад сходам, або перад Управаю гуртка.

Усім сябрам гуртка безумоўна знойдзецца праца. Тут безпрацоўных ня можа быць, калі толькі мы самы шчыра возьмемся за справу. Перад намі з аднаго боку вялізарныя плошчы незакранутае цаліны, паросшае горкім палыном ад вечнае цемры, а з другога абуджаны да жыцьця мільёпны народ, які цягнецца да сонца, шукае сьвету, хоча быць роўным з другімі. У такіх умовах знойдзецца што рабіць, ня толькі некалькім дзесяткам сябраў гуртка, а тысячам іх, якія жыцьцём сваім зьвязаны з працоўным беларускім народам.

У практыцы штодзеннага жыцьця доўгіх гадоў наша ўся праца гурталась пераважна каля драматычных і харавых сэкцый. Меней увагі зьверталася на працу самаадукацыі, на пашырэньне і падтрыманьне нашага ўласнага друку, зусім адсутнічала гуртаваньне нашых маладых самародкаў-паэтаў. Магло стварыцца такое ўражаньне, што тры апошнія галіны працы не зьяўляюцца галінамі агульнага культурна-нацыянальнага жыцьця. Так было.

Цяпер-жа, занедбаныя формы трэба падняць да вышыні працы нашых аматараў-артыстаў, якія здабылі сабе сваею слаўнаю працаю пальму першынства на культурна-асьветнай ніве. Трэба, каб да Агульнага Сходу Т. Б. Ш., які адбудзецца ў пачатку 1934 года, не засталося ні воднага гуртка, які-бы ў сваей і ў суседніх вёсках ня меў цэлай сеткі груп самаадукацыі, гэта значыць груп дарослага насельніцтва па вывучэньню роднае мовы.

Мы хочам мець свой друк. „Летапіс", гэта наш вялікі здабытак, але ён будзе жыць тады, калі мы ўсе разам прыложым нашы цёплыя турботы да яго, калі ён стане, яшчэ больш чым ёсьць, творчасьцю нашых сябраў і сяброваk і працоўнага грамадзянства Зах. Беларусі. Сказанае мы павінны правясьці ў жыцьцё.

Абавязкам груп падтрыманьня друку будзе распаўсюджваньне „Летапісу", збор грошаў у яго фонд, падаваць нам справаздачы і карэспандэнцыі аб працы гурткоў, паказваць недбальства тых, хто перашкаджае працы, адзначаць добрыя бакі ў працы людзей, якія зьяўляюцца прыкладам. Павінна быць гонарам кожнага гуртка, як можна болей асьвятляць сябе з усіх бакоў, добрых і ад'емных, у сваім „Летапісу". Ведаючы, што нам патрэбны наш верш, наша пьеса, напісаныя нашымі людзьмі, мы павінны гуртаваць сваіх самародкаў паэтаў і пісьменьнікаў навокал „Летапісу" і напружыць усе сілы, каб да Агульнага Сходу хоць што небудзь выдаць з іхніх твораў.

За ўсё пералічанае павінны адказваць ня ўсе разам, а вызначаныя для пэўнае працы адзінкі. Тут ёсьць вялікае мейсца да спаборніцтва паміж сабою, хто лепей і болей зробіць. Такая пастаноўка ўсяе працы зробіць актыўнымі гурткі, падыме дысцыпліну, зацікавіць сабою сябраў і грамадзянства.

Праводзячы ў жыцьцё свае пляны, трэба мець на увазе тое, што сапраўдны шлях культурна-асьветнае працы толькі з народам і для народа.

# Прастуем лінію.

Юпітар, ты злуешся —
знача ты не маеш рацыі.

У „маленькай рэцэнзыі“ на № 3—4 Летапісу „Беларуская Крыніца“, апроч прывычнага чытаньня ў нашых серцах — чыё схіляецца ў Маскву, а чыё ў Варшаву, — **пачынае** ўжо лаяцца. Мы не будзем ламаць галавы над пытаньнем, куды хіліцца сэрца „Беларускай Крыніцы“ — у Бэрлін, Рым, ці яшчэ куды інш, і не будзем адказваць лаянкай, а пастараемся адказаць па сутнасьці.

Перадусім „Крыніца“ не зразумела, каб не сказаць перакруціла, нашую думку, выказаную ў перадавіцы № 3 — 4 Летапісу. Папрабуем растлумачыць. Сказана там: безнадзейнасьць у школьным пытаньні ёсьць шкоднае зьявішча і польскія фаховыя школы ня ёсьць ратунак для беларускіх дзяцей школьнага веку.

Па-першае, калі няма школы ў роднай мове, то гэта не значыць, што трэба з гэтым пагадзіцца. Наадварот, у сваей прэсе і сваіх арганізацыях нам трэба ўсьцяж гаварыць і паўтараць аб патрэбе роднай школы.

Па-другое, нельга прыносіць у ахвяру фаховай школе — агульнаасьветную. Не можам пагадзіцца з „Крыніцай“ і яе вывадамі, якія падаем даслоўна: **„помніць трэба, што сяньня асьвета агульная, не спэцыяльная (не фаховая) так мала дае, як і нічога“**, і далей **„досыць прадукаваць інтэлігентных спажыўцоў“.** У гэтым яна падпявае рэакцыйным колам польскага грамадзянства ў іх лямэнце аб „надпрадукцыі інтэлігэнцыі“, за якім хаваецца мэта зачыніць доступ да навукі дзецям беднаты вёскі і места. Дзіўнае супрацоўніцтва!

Што-ж застанецца пасьля скасаваньня агульнае асьветы? — ці не пустое месца?

Узапраўды, тады ня будзе нават каму зладзіць спэктакль, правясьці курсы самаадукацыі, зарганізаваць коопэратыву, якія пакуль што праводзяцца і закладаюцца добра граматнымі сялянамі, былымі вучнямі гімназіяў і студэнтамі.

Што-ж датычыць істнуючых польскіх запраўдных фаховых школаў, то іх хіба можна пералічыць па пальцах і даступны яны толькі найболей заможным. Застаюцца рожныя курсы гмінных пісароў, уселякіх інструктароў, прыкладам, „кулэк ральнічых“ і г. п. Аднак, як бы і тут не дайсьці да супрацоўніцтва з польскімі арганізацыямі, якога так баіцца „Беларуская Крыніца“ за нас.

Маючы глыбокое пераконаньне ў тым, што наша агульна-асьветная праца (не фаховая) патрэбна і карысна для беларускай справы, мы не саромімся падаваць руку сваей будучыні. Той, хто **сумленна** чытае, ясна і выразна бачыць, на каго і на што мы пакладаем свае надзеі.

Вось-жа мы прастуем лінію, так моцна скрыўленую „Беларускай Крыніцай“.

*В. Юравец.*

# *Хлопцы, дружна!..*

*Хлопцы, дружна, хлопцы сьмела,*
*Пакуль рукі змогуць браць,*
*Пакуль горай не сьцямнела*
*Завідна ляпей пачаць—*

*Ратаваць сваю сярмягу,*
*Ратаваць свой цёмны край,*
*Што акутаў сон бядногу —*
*Крыкнем голасна: уставай!*

*На культурным небасхіле*
*Рассяваецца туман;*
*Цемру гоне ўжо к магіле*
*Кучка сьведамых сялян.*

*Вось каб кожна вёска знала,*
*Кожна цёмная душа,*
*Што культура заняпала,*
*Што нам трэба ТБШ?!.*

# Усячына.

* * * Цесна робіцца людзям на зямлі. Ужо ў спэцыяльных балёнах падымаюцца на такую вышыны, якой не можа дасягаць аэроплян. Пасьля бэльгійскага праф. Пікара і савецкіх вучоных гэтаю справаю заняліся амэрыканцы: паручнік Сэтль падняўся на вышыню каля 18 кілямэтраў і абяцае наступным разам дасягнуць 24.

У чытача можа паўстаць пытаньне, што за карысьць такіх узьлетаў у паднябесьсе? А бачыце людзям навукі і тэхнікі ходзіць аб дасьледаваньне магчымасьцяў камунікацыі на такой вышыні, дзе няма густога паветра, а знача няма вятроў, бураў, імглы, якія забіраюць толькі ахвяраў пры лётаньні блізка зямлі. Апрача таго ў больш рэдкім паветры можна будзе скарэй ляцець, бо ня будзе гэтаму перашкаджаць паветра, якое чым далей ад зямлі тым больш рэдкае.

Але-ж зразумела, што гэтыя дасягненьні людзі пастараюцца выкарыстаць для вайны на зямлі з далекіх паднябесных прастораў. Трудна прадставіць сабе, якое вялікае зьнішчэньне можа рабіць балён абладаваны газавымі і іншымі бомбамі, вагой каля 1000 клгр. (62 п.), які будзе лётаць сабе на вышыні 20 клм. са скорасьцю 800 клм. на гадзіну З зямлі на такой вышыні падстрэліць яго проста немагчыма. А ізноў-жа, спрабуйце зьбіць яго, — адразу зваліцца вам на галаву з усім сваім „падаркам“ вагой 62 пуды! Адным словам дзе, як дзе, а ў тэхніцы забіваньня людзэй ідзем вялікім крокам „наперад“...

Трэба зауважыць, што чалавек ня толькі падымаецца птушкай у вышыню. Ён таксама, як крот рыецца ў зямлі і рыбай спушчаецца ў бяздоньне акіянаў. Так у Вэра-Круц (Амерыка), шукаючы нафты, усьвідраваліся на глыбіню 3 клм. 228 м., а амерыканец Біб у 1930 годзе спусьціўся ў спэцыяльнай мэталёвай кулі ў акіян на глыбіню 435 мэтраў.

* * * Невялікія бібліятэкі ў нашых гуртках, у найбольшай — некалькі сотняў—тысячаі кніжак. А на сьвеце існуюць біблятэкі, кніжкі ў якіх лічаць на мільёны.

Так Нацыянальная Бібліётэка ў Парыжы (Францыя) мае 4 мільёны кніжак.

Нямецкая Дзяржаўная Бібліятэка ў Бэрліне мае 2 міл. 287.000 кніжак.

Бібліятэка Акадэмі Навук у Ленінградзе мае 2 міл. томаў, а Расейская публічная бібліятэка (у Ленінградзе) — каля 4,5 міл. томаў і болей 150 тысяч рукапісаў.

Але ня трэба забываць, што і малыя бібліятэкі могуць даць нам вялікую карысьць, калі мы будзем з іх пільна карыстаць.

* * * Цукер вырабляецца звычайна з цукровых буракоў ці з спэцыяльнага цукровага трысьняку. Але некалькі гадоў таму немец Бэргіус апрацаваў спосаб вырабу цукру з дрэва. У 1927 г. паўстала ў Нямеччыне першая фабрыка вырабу цукру з дрэва, якая вырабляе ў дзень 1000 кілё цукру. З 100 кілё зусім сухога дрэва выходзіць 65 кілё цукру. Кошт вырабу — каля 25 грошы за 1 кілё.

(„Przyroda i Technika“ № 5).

* * * Нашае шкло тым непрактычнае, што лёгка б'ецца. Людзі доўга думалі над тым, каб яго зрабіць больш трывалым. І вось, як чуваць, пачалася фабрыкацыя так званага „арганічнага шкла“, якое ёсьць больш празрыстым, чым цяперашняе нашае шкло і разам з тым блізу што такое цвёрдае і гібкае, як медзь. Ня топіцца, гарыць толькі ў вельмі высокай тэмпературы і паддаецца легка апрацоўцы. Але адна ёсьць загана — пакуль што, гэта шкло вельмі дарагое...

А ў Амэрыцы пачалі прадукаваць шко празрыстае толькі з аднэй стараны. Уставіў сабе вакно з такога шкла і паглядай на сьвет шырокі, пэўны, што вока занадта цікавай суседкі табе ў хату не загляне!..

(„Przyroda i Technika“ № 4).

* * * Фабрыка аэроплянаў у Харкаве (Украінская С.С.Р.) кончыла ўжо будаваць найбольшы аэроплян сьвету. Аэроплян гэты мае 6 матораў і будзе магчы перавозіць адразу 123 асобы. Мейсцы на 123 асоб, у патрэбе можна будзе замяніць на 64 мейсцы да спаньня. Аэроплян таксама маець рэстаўрацыйную салю і ў крыльлях — мейсца да спацэру.

(„Gazeta Polska“).

* * * Паводле апошніх вестак 21. XI, аэроплян гэты разьбіўся падчас пробнага лёту, згінула пры гэтым 14 чалавек. Прычына катастрофы — ўзрыў матору.

## Прыслалі падпіску і ахвяры:

Праз П. Першукевіча 7 зл., Д-р М. М. 50 зл., праз А. Сахарчука 3 зл., А. Таранда 1 зл., В. Тарашкевіч 1 зл., Гарбачоўскі г-к 10 зл., Дзерняково г-к 1 зл. 30 гр., праз П. Першукевіча 12 зл. 10 гр., Т. Лыбко 1 зл. 80 гр., П. Такарэвіч 1 зл. 80 гр., А. Халявік 1 зл. 80 гр., Д-р М. М. 50 зл., П. Аніськевіч 1 зл., Улезлаўскі г-к 18 зл., Даранеўскі г-к 4 зл., А. Гаўрылік 5 зл., П. Засім 3 зл., І. Пархімовіч 1 зл. 80 гр., А. Бочко 50 гр., сябры Нязбодзіцкага г-ка 3 зл., Я. Жыўлюк 1 зл. 30 гр., Сьвіслацкі г-к 2 зл., А. Салагуб 1 зл. 80 гр., Ўл. Міралюбаў 1 зл. 80 гр.. Разам 134 зл. 50 гр.

(Далей будзе).

Выдавец: Т-ва Бел. Школы. Адказны Рэдактар: Ф. Стэцкевіч.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.

# Ня кур, ня вей мяцеліца.

Allegro Moderato. ГАРМ. А ГРЭЧАНІНАВА.




Ня кур, ня вей мяцеліца, Каляда, каляда!  
Не завевай сьцежак - дарожак. Каляда, каляда!  
Ой, я-ж пайду к матульцы ў госьці. Каляда, каляда!  
К матульцы ішла, вяночак віла, Каляда, каляда!  
Ад матулькі йшла разьвіваючы, Каляда, каляда!  
Ой па красачцы раскідаючы. Каляда, каляда!  
Ды у ліпаў куст я укінул. Каляда, каляда!  
А у кусьціку шэранькі ваўчок. Каляда, каляда!

# А дзе сонца ўзыйдзе, там расы ня будзе.




А дзе сонца ўзыйдзе, там расы ня будзе,
З нашага каханьня нічога ня будзе.
Прыляцелі гусі ды з чужога краю,
Памуцілі воду на ціхім Дунаю.
Бадай жа вы, гусі, марне запрапалі,
Як мы любіліся, цяпер перасталі.
Каго я любіла, то ў людзі пусьціла,
Каго я не знала, з тым да шлюбу стала.
Бывайце здаровы, сьцежкі і дарожкі,
А дзе-ж пахаджалі мае белы ножкі.
Бывайце здаровы тутэйшыя людзі,
Прашу ўспамінаці, як мяне ня будзе.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.